**FIDH АСУДЖАЕ ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ**

fidh ДВУХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ

СТАР. 2

Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№3 03.2012

**З 70-ГАДОВЫМ ЮБІЛЕЕМ**

В. ШЧУКІНА ПАВІНШАВАЛІ ВЕРШАМ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ЎЗНАГАРОДЖАНЫ ДЫПЛОМАМ “ЗА СВАБОДУ СЛОВА”

У нядзелю, 25 сакавіка ў Осла адбылося ўручэнне дыплома “За свабоду слова” зняволенаму кіраўніку Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесю Бяляцкаму.





Гэтая ўзнагарода заснаваная Нарвежскім саюзам пісьменнікаў і ўручаецца за асаблівы ўнёсак у абарону свабоды слова і талерантнасці.

Сярод лаўрэатаў дадзенай узнагароды ў папярэднія гады былі расійская журналістка Ганна Паліткоўская, Амас Оз з Ізраілю, Давіт Ісаак з Эрытрэі і іншыя выбітныя асобы, якія адзначыліся сваёй барацьбой за адстойванне права на выказванне меркавання ў сваіх краінах.

Узнагароду зняволенаму праваабаронцу ўручала прэзідэнт Саюзу пісьменнікаў Нарвегіі Аннэ Утэрхолм. Паколькі Алеся Бяляцкі не змог прысутнічаць на цырымоніі і нават да гэтага часу не ведае пра ўганараванне, прымала дыплом жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук. Яна распавяла пра паслядоўную і шматгадовую працу Алеся ў накірунку адстойвання нацыянальных каштоўнасцяў, правоў і свабодаў, ягоны літаратурны і літаратуразнаўчы шлях.

Уручэнне дыплому адбывалася падчас штогадовага з’езду Саюзу пісьменнікаў Нарвегіі.

spring96.org

# Алесь Бяляцкі – як літаратуразнаўца

Да 50-годдзя старшыні ПраваабарончагаЦэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага сябры і калегі палітвязня рыхтуюць да выдання кнігу, у якую ўвойдуць яго-ныя літаратуразнаўчыя тэксты розных гадоў – пра Францішка Аляхновіча, пра Антона Навіну, пра Адама і Максіма Багдановічаў, пра каталіцкіх паэтаў, пра вершы Янкі Купалы і пра Анатоля Сыса.

Як вядома, Алесь Бяляцкі па адукацыі філолаг і літаратуразнаўца. Пасля заканчэння аспірантуры ён нядоўгі час працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Музея гісторыі беларускай літаратуры. У хуткім часе быў абраны дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, які ўзначальваў амаль 10 год (1989-1998).

На аснове кандыдацкай дысертацыі ў 1991 годзе выйшла кніга-манаграфія Алеся Бяляцкага “Літаратура і нацыя”. Сёлета яна ўключана ў спіс прэтэндэнтаў на атрыманне суб’ектыўнай літаратурнай прэміі Адама Глобуса “Залатая літара 2011”, якая традыцыйна ўручаецца 25 сакавіка ў адной з менскіх кавярняў. Галасаванне праходзіць на старонцы Адама Глобуса ў LiveJournal.

spring96.org

## Алесь Бяляцкі будзе працаваць на швейнай вытворчасці




Сустрэча Алеся Бяляцкага з жонкай Наталляй Пінчук адбудзецца толькі ў наступным месяцы. Старшыню Праваабарончага цэнтра “Вясна” больш трох тыдняў трымалі ў турэмным каранціне і толькі ў мінулы чацвер перавялі ў атрад.

У Бабруйскай калоніі сустаршыня Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека будзе працаваць на швейнай вытворчасці. Пра гэта Алесь Бяляцкі паведаміў сваёй жонцы Наталлі Пінчук у першым лісце пасля пераводу ў атрад.

– Сустрэчы не адбудзецца, паколькі Алесю працягнулі каранцін. Сёння я атрымала ліст з якога стала вядома, што 22-га яго перавялі ў атрад. Чым ён будзе займацца ў атрадзе ён сам не ведае, бо ліст датаваны 22 сакавіка. Адзінае ведае, што гэта атрад, які будзе хадзіць на швейную вытворчасць. Добрым знакам для мяне з’яўляецца ўжо тое, што я атрымала ад яго ліст.

spring96.org

# FIDH РАШУЧА АСУДЖАЕ ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ ДВУХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ У ВЫНІКУ АБУРАЛЬНА НЕСПРАВЯДЛІВАГА СУДА

У пятніцу, 16 сакавіка 2012 года былі пакараныя смерцю Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў, праз два дні пасля таго, як прэзідэнт Лукашэнка адхіліў іх просьбу аб памілаванні.

Двое мужчын былі асуджаныя да смяротнага пакарання 30 лістапада 2011 года па абвінавачванні ў арганізацыі магутнага выбуха ў метро Менска ў красавіку 2011 года.



“Гэтыя пакаранні з'яўляюцца яшчэ адной ілюстрацыяй поўнай адсутнасці незалежнай судовай сістэмы ў Беларусі, бо віна двух маладых людзей не была дакладна ўстаноўленая, а суд не быў справядлівым. Падобна на тое, што гэтыя расстрэлы былі спробай прымусіць замаўчаць двух непатрэбных сведкаў”, сказала прэзідэнт FIDH Сухэр Белхасэн.

Абодва мужчыны былі арыштаваныя 12 красавіка 2011 года ў якасці асноўных падазраваных у арганізацыі выбуха на станцыі менскага метро, размешчанай у 100 метрах ад будынка прэзідэнцкай адміністрацыі, у выніку якога загінулі 15 чалавек. Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў таксама абвінавачваліся ў арганізацыі выбухаў у Віцебску і Менску ў 2005 і 2008 гадах.

Супярэчлівыя паказанні ў ходзе судовага разбіральніцтва паставілі пад сумнеў удзел абвінавачваных у арганізацыі выбухаў. Дзмітрый Канавалаў адмовіўся ад сваіх раней дадзеных паказанняў, у якіх ён прызнаў сваю сувязь з рознымі выбухамі, сцвярджаючы, што ён прызнаўся ў гэтых злачынствах пад псіхалагічным ціскам і катаваннямі. Акрамя таго, на-




зіральнікі паведамілі пра сур'ёзныя працэсуальныя парушэнні падчас папярэдняга следства і судовага разгляду справы, якія з'яўляюцца дастатковай падставай для абуральнага парушэння правоў абвінавачаных на празрыстае і бесстароннае судовае разбіральніцтва. У судзе не былі ўстаноўленыя ні матыў, ні дакладныя абставіны здзяйснення злачынства. Акрамя таго, элементы доказаў, па якіх мужчыны былі асуджаныя, ужо знішчаныя па рашэнні суда.

“Беларусь з'яўляецца апошняй краінай у Еўропе, якая ужывае смяротнае пакаранне. 70% краінаў свету адмянілі смяротнае пакаранне заканадаўча або на практыцы. Гэтымі пакараннямі смерцю улады Беларусі, на жаль, вырашылі пайсці насуперак глабальнай прагрэсіўнай тэндэнцыі”, дадала Сухэр Белхасэн.

FIDH заклікае беларускія ўлады адмяніць смяротнае пакаранне за ўсе злачынствы і неадкладна ўвесці мараторый на вынясенне і выкананне смяротных прысудаў.

spring96.org

## МЕРКАВАННЕ

cowboy1967

Белорусские власти решили не оставлять жизнь первым отечественным «террористам», за которыми, по мнению независимых экспертов, могли стоять белорусские спецслужбы.

Да сколько можно в этом деле видеть след белорусских спецслужб. Так рассуждают люди. которые шпионских триллеров, американских насмотрелись. Наши спецслужбы уже давно не спецслужбы, а аморфный правоохранительный атавизм. Простите меня, но к сожалению это так и не один я так думаю. А жаль,что это так.

belaruspartisan.org

### Большасць баранавічанаў не падтрымлівае рашэння прэзідэнта

Такія вынікі паказвае апытанка, якую баранавіцкая недзяржаўная газета “Intex-press” ужо некалькі дзён ладзіць на сваім сайце. На 23 сакавіка на пытанне “Вы памілавалі б Канавалава і Кавалёва?”станоўча адказалі каля 60% наведвальнікаў.

Каля 20% удзельнікаў апытання выказаліся супраць, прыблізна столькі ж - пакуль не вызначыліся ў гэтым пытанні, а каля 2% думаюць пра іншае.

Апытанне на сайце “Intex-press” працягваецца.

Аляксей Пузікаў

### Афіцыйная дата расстрэлу Уладзіслава Кавалёва – 15 сакавіка

«Але ўжо ні 13, ні 14 сакавіка да яго чамусці не пускалі адваката Станіслава Абразея. Яны з Уладзіславам так і не падалі наглядную скаргу, бо ім не далі сустрэцца», – гаворыць Любоў Кавалёва, маці асуджанага і пакаранага смерцю за тэракт у мінскім метро.

Маці апошні раз бачыла сына падчас спатканьня 11 сакавіка. 16-м сакавіка датавана даведка з Вярхоўнага суду, што прысуд выкананы. Любоў Кавалёва і сястра расстралянага Таццяна не ўпэўненыя, што ў «Пасведчанні аб смерці» напісалі сапраўдную дату.

«Супрацоўніца ЗАГСу мяне завяла ў кабінет. Там у кампутары паглядзела дату – 15 сакавіка. Кажуць, што нейкія звесткі ім мусілі даслаць пра выкананне прысуду. Так і запісалі ў пасведчанне. А ці праўда гэта, ці прыдуманая дата – мы не ведаем!» – кажа Любоў Кавалёва.

spring96.org

# Рыгору Грыку другі раз запар забаранілі пікет




Грамадскі актывіст Рыгор Грык 20 сакавіка атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам не дае дазволу на правядзенне пікету 25 сакавіка 2012 года ў старым парку горада.

Падчас пікета Рыгор Грык хацеў выказаць пратэст супраць збяднення людзей у сувязі з ростам коштаў на тавары, паслугі і замаражванне заробкаў. У адказе чыноўніка сказана, што заява Рыгора Грыка парушае артыкул 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах" (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 № 308-З). Праўда, якую норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў адмовіўся назваць.

Сёлета гэта ўжо чацверты запар пікет, які не дазваляе Баранавіцкі гарвыканкам. З пачатку года былі забаронены пікеты, якія планавалі правесці грамадскія актывісты Віктар Цяпін, Рыгор Дружынін і двойчы Рыгор Грык.

Віктар Смоўж

# Прадпрымальнік з Баранавічаў адстойвае дэмакратычныя працэдуры



У чым сутнасць справы, якая цягнецца яшчэ са снежня 2011года: грамадскі кіруючы орган прадпрымальнікаў – Рада, павінна была быць пераабранай самымі прадпрымальнікамі, што яны і зрабілі, але адміністрацыя цэнтральнага кірмашу іх сход не прызнала, арганізавала і правяла сама новы сход, пра які не ведалі многія прадпрымальнікі, абрала Раду ў асноўным з прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, што груба парушае пастанову Савета Міністраў РБ ад 14.04.2005г. Па словах індывідуальнага прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса, гарадское кіраўніцтва праігнаравала абраны прадпрымальнікамі дэмакратычным шляхам Савет і стварыла новы са сваіх прыбліжаных, абвесціла яго склад, а пасля гэтага сабрала сход. У той жа час, заканадаўства патрабуе, каб спачатку быў праведзены сход, які павінен абраць Савет. І сход, і выбары Савета павінны праводзіць самі прадпрымальнікі, а не чыноўнікі.

Мікола Чарнавус накіроўваў скаргі ў пракуратуру Баранавіцкага раёна, ў абласную пракуратуру , у Адміністрацыю прэзідэнта, дзе прасіў апратэставаць вынікі выбараў Савета прадпрымальнікаў на кааператыўным рынку гораду. Ён даводзіў, што выбары Савета, арганізаваныя гарвыканкамам і раённым спажывецкім таварыствам, не адпавядаюць беларускаму заканадаўству.

Аднак? ні раённы пракурор, ні намеснік пракурора вобласці А.Т. Точка не ўбачылі (не захацелі ўбачыць) парушэнняў! Таму Мікалай Чарнавус накіраваў 11.03.2012 пракурору Брэсцкай вобласці Хмаруку С.К. скаргу на дзеянні намесніка пракурора А.Т. Точкі, у якой ён сцвярджае, што той груба парушыў закон РБ ад 18.07.2011 года № 300-З "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб". Прадпрымальнік лічыць, што намеснік пракурора адказаў зусім не па сутнасці пастаўленых пытанняў і таму не хоча бачыць парушэнняў заканадаўства пры правядзенні выбараў у Раду індывідуальных прадпрымальнікаў Баранавіцкага кааррынку. Мікалай Чарнавус просіць пракурора Брэсцкай вобласці С.К. Хмарука: 1) апратэставаць вынікі правядзення сходу 18-20 снежня 2011 года па выбарах Рады прадпрымальнікаў Баранавіцкага кааррынку 2) прапанаваць Баранавіцкаму гарвыканкаму, пры напісанні адпаведнай заявы, выдзяліць памяшканне прадпрымальнікам для правядзення схода па выбарах сяброў Рады Баранавіцкага кааррынку. 3) пераабраць Раду прадпрымальнікаў с самых прадпрымальнікаў у адпаведнасці з законам.

Сяргей Гоўша

## З 70-гадовым юбілеем, спадар Валер!



Грамадскія актывісты з Баранавіч прысвяцілі верш Валерыю Шчукіну.

22 сакавіка з нагоды 70-годдзя праваабаронцы Валерыя Шчукіна яго баранавіцкія сябры і аднадумцы прысвяцілі яму верш – Чалавеку, для якога служэнне закону і абарона ахвяраў беззаконня стала сэнсам жыцця і дзейнасці.

Алесь Белы, Сяргей Гоўша, Вячаслаў Болбат і Віктар Сырыца падкрэсліваюць, што ганарацца патрыётам і грамадзянінам Валерыем Шчукіным і схіляюць калені перад Чалавекам, для якога служэнне закону і абарона пацярпелых ад беззаконня стала сэнсам жыцця і дзейнасці.

Вы вырашылі жыць не па фэн-шую,
У каўтаранга іншыя задачы,
Спадар Валерый, шчыра Вас віншуем!
З днём нараджэння, шчасця і ўдачы.

Падводнік, што заўсёды жыў культурна,
Пры боку корцік, зоркі на пагонах...
А вас, Асобу, зачынялі ў турмах,
Хацелі Шчукіна зрабіць прыгонным.

Ды маракі прывыклі да нягод,
За Вамі і за намі перамога!
Працягвайце Вы дальні свой паход,
Жывіце ў шчасці, ў радасці і з Богам!

Вітусь Свабодзкі

### Брэсцкі абласны суд задаволіў касацыйную скаргу Мікалая Чарнавуса

Брэсцкі абласны суд 29 лютага задаволіў касацыйную скаргу грамадскага актывіста з Баранавічаў Мікалая Чарнавуса.

У зале суда прысутнічала віцэ-консул Генеральнага консульства Украіны ў Брэсце Ірына Чабатарова.

3 лютага Мікалая Чарнавуса Баранавіцкі суд пакараў штрафам 70000 рублёў нібы за самаўпраўства пры стварэнні грамадскага аб'яднання. Суддзя Станіслаў Півавар прызнаў правапарушэннем тое, што заявы ў гарвыканкам наконт выдзялення ўкраінскай дыяспары памяшкання для рэгістрацыі ГА "Кабзар" М. Чарнавус падпісваў як старшыня арганізацыі, якім ён быў абраны на ўстаноўчым сходзе. Так як "Кабзар" пакуль не прайшоў дзяржрэгістрацыі, то подпіс чыноўнікі палічылі самаўпраўствам і ініцыявалі суд над Чарнавусам.

– Рашэнне Баранавіцкага суда адменена па прычыне парушэння працэсуальнага заканадаўства.

Разгляд адміністрацыйнай справы пачаўся больш чым праз два месяцы пасля так званага праваparушэння, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

Суддзя Станіслаў Півавар сказаў, што на яго ціснуць зверху. Судовы працэс па справе грамадскага аб'яднання "Кабзар" яскрава падцвердзіў моцную залежнасць баранавіцкіх суддзяў ад мясцовай адміністрацыі, што суддзі кіруюцца не законам, а жаданнем дагадзіць кіраўніку мясцовай вертыкалі, – падсумаваў Мікалай Чарнавус.

spring96.org

## Баранавічы: грамадскія актывісты віншуюць палітвязняў з Днём Волі

У сераду, 21 сакавіка грамадскія актывісты з Баранавічаў накіравалі палітзняволеным краіны каля 40 віншавальных лістоў і паштовак да 25 Сакавіка.




– Мы павіншавалі нашых змагароў за Беларусь, дэмакратыю і вольныя выбары з надыходзячым светлым і найгалоўнейшым святам беларусаў – 25 Сакавіка, калі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы пажадалі нашым сябрам і аднадумцам моцнага здароўя і найхутчэйшай свабоды,- распавёў старшыня гарадской суполкі Руха "За свабоду Віктар Сырыца.

Віншаванні ад баранавіцкіх актывістаў у знак маральнай падтрымкі накіраваны асуджаным за падзеі 19-га снежня 2010 года ў Менску Андрэю Саннікаву, Мікалаю Статкевічу, Зміцеру Бандарэнка, Паўлу Севярынцу, Эдуарду Лобаву, Зміцеру Дашкевічу, а таксама Мікалаю Аўтуховічу, Алесю Бяляцкаму, Мікалаю Дзядку, Аляксандру Францкевічу і Ігару Аліневічу.

Віктар Смоўж

## У Баранавічах збіраліся пратэставаць супраць немагчымасці пратэставаць

Намеснік старшыні Баранавіцкай гарадской арганізацыі партыі "Справядлівы свет" Рыгор Дружынін накіроўваў 2 сакавіка 2012г. пісьмовую заяву ў гарвыканкам на правядзенне адзіночнага пікету. Пікет планавалася правесці 18 сакавіка з 12 да 13 гадзін дня ў старым парку горада. Мэта пікетавання: выказванне пратэсту супраць парушэнняў правоў грамадзян на правядзенне масавых мерапрыемстваў.

– Мы невыпадкова выбралі такую мэту нашага пікета. Варта нагадаць, што ў лютым 2012 года ўлады адмовілі нашай гарадской арганізацыі ў магчымасці правядзення пікету супраць збядnення насельніцтва, спаслаўшыся на парушэнні пры афармленні і падачы заявы на пікет. Таму мы вырашылі выказаць 18 сакавіка свой пратэст таму, што гарадскія ўлады парушаюць нашае канстытуцыйнае права на правядзенне масавых мерапрыемстваў,- паведаміў старшыня Баранавіцкай гарадской арганізацыі партыі "Справядлівы свет" Віктар Цяпін.

І вось 15 сакавіка намеснік старшыні Баранавіцкай гарадской арганізацыі партыі "Справядлівы свет" Рыгор Дружынін атрымаў ліст, падпісаны намеснікам старшыні гарвыканкама Дз. Касцюкевічам. Актывісту паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам не дае дазвол на правядзенне пікету 18 сакавіка 2012 года супраць парушэнняў правоў грамадзян на правядзенне масавых мерапрыемстваў.

У адказе чыноўніка сказана, што заяўнік своечасова не прадставіў копіі пісьмовых дамоў з гарадской міліцыяй (на ахову грамадскага парадку), спецаўтабазай (на прыборку тэрыторыі пасля мерапрыемства) і гарадской паліклінікай (на медыцынскае абслугоўванне ўдзельніка пікету).




На гэтай падставе гарвыканкам і забараніў правядзенне пікету аднаго чалавека.

– Дзяржаўныя чыноўнікі напрымалі столькі розных законаў, актаў і рашэнняў, што нават адзін чалавек не можа выказаць сваё меркаванне пра падзеі ў краіне ці ў сваім горадзе, без шматдзённай узгадняючай бюракратычнай валакіты, - каментуе сітуацыю Віктар Цяпін, старшыня Баранавіцкай гарадской арганізацыі партыі "Справядлівы свет".

Пры гэтым грамадска-палітычны актывіст падкрэслівае, што артыкул 35 Канстытуцыі краіны абвяшчае не толькі свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, але тое, што гэтае права грамадзянаў гарантуецца самой дзяржавай.

Аляксей Пузікаў

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"

Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
З пытаньнямі, заўвагамі і прапановамі звяртацца на адрас: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Накалад 299 асобнікаў

Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ